# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Выдае Царкоўная Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Ню-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 108 Wyckoff St., Brooklyn 1, New York, N. Y.

Tel.: Ulster 2-7552 Цана 25 цэнтаў

Нр. 1. Вялікдзень, красавік 1955 Год 1.

## БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ

СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЯПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манашаства й усіх багалюбівых вернікаў нашых на выгнаньні й удома прабываючых

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТАРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

*„Сяньня ўсякі твор радуецца й весяліцца, бо ХРЫСТОС УВАСРОС, і пекла перамог"*

*(Вялікодны Канон).*

УЛЮБЛЕНЫЯ Й ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ!

Ніякімі словамі ня можна перадаць радасьць душы нашае, калі яна чуе словы Ангелаў сьвятых да Жонаў Міраносіцаў пры Гробе Хрыстовым: „Што вы шукаеце жывога між памершымі? Яго няма тут: Ён УВАСКРОС!" (Лк. 24, 5-6). Ён, Каторы быў Чалавекам на зямлі, УВАСКРОС, сьмерць і пекла перамог, і нам, меншым братом Сваім, жыцьцё вечнае дараваў! Толькі Ангелы маглі тады зразумець гэтую невымоўную радасьць нашу, нашае пакліканьне да ўдзелу ў Царстве Нябесным, ды Прачыстая Маці Божая, пачуўшы ізноў дзіўнае прывітаньне іх: „Радуйся, Дзева, радуйся; радуйся багаслаўленая, радуйся прэпраслаўленая: Твой бо Сын УВАСКРОС на трэйці дзень ад гробу!" (Вялікодная Сьціхіра).

УВАСКРОС! Сьмерць і пекла перамог, каб заняць Свой Пасад праваруч Бога Айца ўжо ў нашым людзкім целе, каб гэтым нас падняць да вышыняў Нябесных, паказаць і адкрыць нам шлях да радасьці вечнае! Аб гэтай Сваей бязьмежнай Ласцы да нас Гасподзь Бог апавясьціў ужо ў Старым Запавеце праз Прарокаў: „Я ведаю, што Адкупіцель мой жыве, і ў апошні дзень Ён уваскрасіць мяне з

праху зямнога. І я ў целе маім пабачу Бога" (Іаў 19, 25-26). „Ад улады пекла Я выкуплю іх, ад сьмерці збаўлю іх" (Ос. 13, 14). „Бо не пакінеш душы мае ў пекле, і не дасі сьвятому Тваяму ўбачыць тленьне" (Пс. 15, 10). А пасьля Сам Спасіцель наш апавясьціў: „Я — уваскрасеньне й жыцьцё, і хто ўверуе ў Мяне, хоць памрэ, жыць будзе" (Іо. 11, 25). Вучням жа Сваім Ён неаднакротна гаварыў: „Сын Чалавечы будзе цяжка пакутаваць . . . і будзе забіты, і на трэйці дзень Уваскрэсьне" (Лк. 9, 22).

Наш розум людзкі ня можа належна зразумець усю глыбіню, веліч і радасьць гэтае тайны Божае, але душа нашая, вызваленая ад сваяго сьмяротнага граха Уваскрасеньнем Хрыстовым, добра разумее й ведае, што яна ўжо можа стацца падобнаю Ангелам сьвятым і разам зь імі цешыцца й радавацца ў Прастолу Усявышняга! І каб дастойна спаткаць пацьверджаньне гэтае свае бясконцае радасьці ў Дзень Сьветлага Хрыстовага Уваскрасеньня, яна ўжо падрыхтоўваецца да яго падчас Вялікага Посту: ачышчае сябе ад усякіх няцнотаў, грахоў і правінаў словам і чынам на сьв. Споведзі й прыняцьцем сьв. Прычасьця — злучэньнем з сваім Адкупіцелем — Богам.

І калі толькі яна пачуе першы сьпеў у сьв. Церкве: ХРЫСТОС УВАСКРОС, радасьць яе ўжо поўная! У гэты ўрачысты й слаўны мамэнт яна ўжо забываецца аб усім іншым, акрамя аднаго: аб сваей будучай радасьці, аб сваей славе, аб сваім вечным служэньні Госпаду Богу! У гэты мамэнт наступае вялікі Цуд: для душы нашае адкрываецца Рай ужо тут на зямлі! Тут ужо няма маладых ці старых, бедных ці багатых, простых ці вучоных, белых ці жоўтых! У гэты слаўны мамэнт усе людзі, усе народы па ўсей зямлі толькі дзеці Божыя, любячыя сябе Браты й Сёстры! Знаёмыя й незнаёмыя абыймаюць адзін аднаго! Ворагі стаюць прыяцелямі, злыя робяцца добрымі, скупыя шчодрымі, самалюбныя адкідаюць гардыню сваю, бо ўсе хрысьціяне ў гэты мамэнт стаюць падобнымі Ангелам ужо тут на зямлі, адчуваюць сябе ўдзельнікамі слаўнае гасьціны Вясельнае Гаспадара нашага Нябеснага! І сьлёзы, як выраз пакутаў і цярпеньняў, стаюць выразам нашае радасьці, перамогі, трыумфу!

Вось гэтых сьлёзаў радасьці, перамогі й трыумфу мы жадаем табе, Беларускі Народзе, у мамэнт Сьветлага Хрыстовага Уваскрасеньня! Бо, калі мы будзем з Богам, з намі будзе Усемагутная Праўда Яго, а яна заўсёды переможа ўсіх бязбожных ворагаў яе, а гэтым і нашых. І калі мы будзем жыць і дзеяць паводля гэтае Праўды Божае, тады й мы пачуем такія словы Усявышняга: „Тыя, што цярпелі зьнявагі, будуць цешыцца долею сваею, бо ў сваей краіне ўдвая супраць таго атрымаюць, і радасьць вечная будзе ў іх. Бо Я, Госпадзь, люблю праўасудзьдзе, ненавіджу зьдзекі й насільле, і аддам ім заплату па праўдзе" (Іс. 61, 7-8).

Будзем жа любіць нашага Дасканалага Брата, Ісуса Хрыста, Каторы пайшоў на Крыж, памёр у Уваскрос дзеля нашага дабра й шчасьця тут на зямлі й там на Небе. Таму, на доказ нашае любові да Яго: „Прасьвятлімся гэтым Сьвятам над Сьвятамі, абыймем адзін аднаго й скажам: Браце, навет таму, што крыўду робіць нам. Усё выбачым дзеля Уваскрасеньня, і адзіным сэрцам і адзінымі вуснамі радасна засьпяваем: ХРЫСТОС УВАСКРОС із мертвых, сьмерцю сьмерць паканаў, і тым што ў грабох, жыцьцё дараваў" (Вялікодная Сьціхіра).

Усечэсныя Айцы й увесь наш любы Беларускі Народзе! У Духу Божым вітаем усіх вас зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам Неба й зямлі — УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ! Няхай Ён, Валадар сусьвету, па Сваім Уваскрасеньні затрыумфуе ў душах і сэрцах вашых, і напоўніць вас тою радасьцю, тым натхненьнем, якія запанавалі ў душах Прачыстае Маці Божае, Жонаў Міраносіцаў, сьв. Апосталаў і ўсіх верных пасьля незямное весткі: ХРЫСТОС УВАСКРОС! І мы ўсе, падобна ім, натхнёна ўсклікнем: ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! Уваскрэсьне й нашая ўкрыжаваная, любая Маці-Беларусь!

Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога і Айца, і шчадроты Сьвятога Духа няхай будуць з усімі вамі. АМІНЬ.

*† Сьмірэнны Архіяпіскап* СЕРГІЙ
*Глава Сьвяшгэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

Дана Року Божага 1955 месяца красавіка Аўстралія-Амэрыка.

*† Сьмірэнны Архіяпіскап* ВАСІЛІ
*Сакратар Сьвяшгэннага Сабору Япіскапаў БАПЦарквы на Чужыне*

---

## ВЯЛІКДЗЕНЬ (ПАСХА)

### ЖЫЦЬЦЁ, РАДАСЬЦЬ, ПЕРАМОГА Й НАДЗЕЯ

Калі людзі й народы духова былі яшчэ ў сваім дзіцячым веку, яны разумелі ўсе рухі й падзеі ў прыродзе цьмяна, невыразна, падзіцячаму. Яны, як дзеці наагул, ставілі сабе мноства розных пытаньняў і давалі адпаведныя адказы на іх. Яны бачылі, што пад уплывам сонца прырода ажывае, пакрываецца цудоўнымі краскамі й карыснымі расьцінамі, якія даюць ім хлеб ды іншыя сродкі да жыцьця, прыносяць ім радасьць і задаваленьне, таму й прыйшлі на думку, што сонца й ёсьць творцам усяго, у тым ліку й іхнага жыцьця. Дзеля гэтага ў шмат якіх народаў, у тым ліку й нашага беларускага, паўстала радаснае сьвята Вясны, сьвята сонца, як іхнага дабрадзея й пераможцы над зімою — злом.

Так доўга блудзілі людзі, пакуль Госпадзь Бог не прасьвятліў іхны розум Сваім Духам Сьвятым, не адкрыў ім, што тое сонца, якому яны пакланяюцца, толькі маленькая пясчынка ў бязьмежным сусьвеце, створаным Ім, Тварцом усяго, што мы бачым і што ня бачым. Таму адзіна Яму належыць слава й паклон. Нажаль, яшчэ доўга й пасьля гэтага Адкрыцьця Божага бальшыня народаў прадаўжала прабываць у цемры, акрамя народу жыдоўскага, які верыў ужо тады ў Адзінага Бога Жывога.

Але вось споўнілася поўня часу, і на зямлю прыйшоў Сам Сын Божы, Ісус Хрыстос, каб паказаць усім людзям і народам — Праўду, Шлях і Жыцьцё. Мала таго, Сваім уласным жыцьцём, як Чалавек,

Сваею Сьмерцю й Увакрасеньнем, Ён ня толькі паказаў нам Адзінага Бога Жывога, Сам будучы Ім, але Сваею Крывёю змыў наш грэх першародны, вызваліў нас ад насьледку яго — сьмерці, дараваў нам жыцьцё вечнае — НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ, і гэтым паказаў нам вялікую МЭТУ нашую: вечную й невымоўную радасьць разам зь Ім, Тварцом нашым! Хрыстос, Сын Божы, падняў нас з сьвету матэрыі ў сьвет несьмяротнага Духа, адкрыў нам шлях да Неба, даў нам магчымасьць стаць падобнымі Ангелам сьвятым! Што-ж можа быць большым ад гэтага нашага гонару, ад гэтае нашае радасьці?!

Але Ісус Хрыстос, як Бог, добра ведаў, што для духова паўшых людзей вельмі цяжка зразумець гэтае вялікае, слаўнае й радаснае ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ іх, гэтую перамогу Духа над матэрыяй, таму Ён збудаваў Сваю Сьвятую Царкву — Сваё Валадарства Божае на зямлі, каб людзі дасканаліліся, расьлі й узмацняліся духова й поўніліся НАДЗЕЯЙ на асягненьне гэтае велічнае мэты свае: злучэньне з Богам тут на зямлі дзеля вечнага злучэньня зь Ім на Небе.

Гэтае ўзьняцьце людзей з цемры да сьвятла, гэтая магчымасьць злучэньня з Усемагутным Богам, радасным рэхам адбілася ў душах шматлікіх народаў, а таксама й нашага беларускага. А таму, што для душы нашай адкрыўся шлях да вышыняў Нябесных праз Сьмерць і Уваскрасеньне Ісуса Хрыста, гэтае Сьвята нашае — ВЯЛІКДЗЕНЬ і сталася для нас найбольшым Сьвятам, Сьвятам ЖЫЦЬЦЯ, РАДАСЬЦІ, ПЕРАМОГІ й НАДЗЕІ!

Гэта запраўды наш ВЯЛІКІ ДЗЕНЬ, таму народ наш і назваў гэтае Сьвята ВЯЛІКАДНЕМ. Адкуль жа паходзіць назоў — ПАСХА? Назоў гэты не прыпадковы, ён мае свае карэньні ў Старым Запавеце, дзе ён быў сымбалем непараўнальна большага Сьвята — Уваскрасеньня Хрыстовага. Дванаццатая глава 2-ой кнігі Майсея апавядае нам, што Гасподзь Бог загадаў яму, напярэдадні выхаду з няволі Эгіпскае, каб у кажнай жыдоўскай сям'і быў заколены бездаганны баранчык, а крывёю яго былі памазаныя дзьверы. Дзеля чаго? Дзеля таго, што ў гэтую ноч Бог паслаў Сваяго Ангела для апошняга пакараньня бязбожнага Эгіпскага фараона й народу яго. Ангел праходзіў па ўсіх хатах, пачынаючы ад палацу фараона, і адбіраў жыцьцё усяму першанароджанаму, але, бачучы кроў на дзьвярох хатаў жыдоўскіх, каля іх „праходзіў паўз", што пажыдоўску значыць: „пассах", а паангельску: „пассовэр". Таму „пассах" для жыдоў, гэта іхная „Апошняя Вячэра" у Эгіпце, і „Пассах" стаўся для іх пасьля ўспамінам вызваленьня іх зь няволі. Таму й спажываюць яны яе й цяпер адзетымі ды з кіямі ў руках, як-бы гатовыя ў дарогу, як гэта было тады ў Эгіпце, бо-ж у гэтую ноч яны й выйшлі зь яго.

Тысячу жа гадоў пазьней гэты „пассах" стаўся пачаткам Новага Запавету. Ён стаўся Запаветам новае вялікае Ласкі Божае да людзей: ён стаўся ТАЙНАЮ ВЯЧЭРАЮ Спасіцеля нашага й Ягоным выхадам у Сад Гефсіманскі, а зь яго на пакуты Крыжовыя. Гэта быў ужо зусім іншы „Пассовэр": тут пралілася кроў не баранчыка, а Самога Сына Божага. Таму й насьледкі гэтае Ахвяры былі зусім іншыя: вызваленьне зь цемры грахоўнае душаў нашых і адкрыцьцё



нам ня брамаў гораду, а — ДЗЬВЯРЭЙ РАЮ! Хрыстос падняў на Крыж Цела Сваё і праліў на ім Сваю Кроў, таму Ён запаведаў нам праз сьв. Апосталаў на Тайнай Вячэры злучацца зь Ім праз спажываньне Ягонага Цела й Крыві ў постаці хлеба й віна ў сьв. Прычасьці. Тымчасам як у жыдоў і цяпер засталіся сымбалем Запавету — злучэньня з Богам, мяса баранчыка й праснакі, таму й тут розьніца надта вялікая.

Але чаму ангельцы й амэрыканцы не называюць свой Вялікдзень — „Пассовэр", як гэта робяць тут жыды, а „Істэр"? Ангельскі назоў „Істэр" паходзіць ад нямецкага „Остэрн", а гэты ізноў узяты ад паганскае нямецкае багіні вясны „Остара". Дзеля таго, што Вялікдзень заўсёды бывае вясною, дык немцы й пераняў гэты назоў для сваяго Вялікадня.

Таму жа, што Тайная Вячэра Ісуса Хрыста з сьв. Апосталамі адбывалася, як кажа нам сьв. Пісьмо, беспасярэдня перад жыдоўскім „пассах", а першымі хрысьціянамі былі пераважна жыды, да таго ў той час усюды панавала грэцкая мова, на якой „Пассах" пісаўся — „ПАСХА", дык яны ахвотна й прынялі гэты назоў.

Адсюль назоў „Пасха" перайшоў у мовы шматлікіх народаў зь невялічкімі зьменамі. Так й французаў: "Paques", у італьянцаў: "Pasqua", у гішпанцаў: "Pascuas", у партугальцаў: "Pascoa", у румынаў: "Pasti", у албанцаў: "Pashke". Навет у такіх народаў, як туркі: "Paskaliya", у армян: "Pasek", у грузін: "Pask". Цікава, што іншыя германскія народы адкінулі свае паганскія назовы й прынялі іх з сьв. Пісьма. Так Вялікдзень у Галяндыі называецца: "Paasch", у Даніі: "Paaske", у Нарвэгіі: "Paske", у Швэдыі: "Pask", у Ісляндыі: "Pascar". Таксама цікава, што самы грэкі ўжываюць для Вялікадня назоў „Лямпра", што значыць: бліскучае, зьзяючае сьвята. З часам гішпанцы пашырылі свой назоў „Паскуас", што ў іх значыць наагул „сьвята", на „Паскуас дэ Рэзурэціон" — „Сьвята Уваскрасеньня", а ў некаторых мясцовасьцях Італіі Вялікдзень называюць „Паска дэля уова" — „Сьвята яек", як сымбаль вечнага жыцьця.

Так вось па ўсім шырокім сьвеце хрысьціянскія народы маюць сваё супольнае вялікае Сьвята, сваю супольную радасьць, радасьць жыцьця й перамогі. Таму й сьвяткуецца яно вельмі ўрачыста, фактычна ўжо пачынаючы ад Вербніцы. Апошні, Страстны, тыдзень перад Вялікаднем ужо кажная хрысьціянская сям'я ўважае сьвятым, каб духова й матарыяльна падрыхтаваць сябе дастойна спаткаць яго. Бязумоўна, асабліва ўрачыста й велічна спатыкаюць яго славянскія народы, а перадусім праваслаўныя, што сталася пад уплывам грэкаў, ад якіх мы пераняў й Вялікоднае прывітаньне: Хрыстос Уваскрос! Запраўды Уваскрос! (Хрыстос Анэсці! Аліцінос Анэсці!).

З усіх жа славянскіх народаў найбольш урачыста й радасна сьвяткуе Вялікдзень наш Беларускі Народ. Аб гэтай велічы й радасьці Вялікага Дня маглі-б бясконца апавядаць нашыя старэйшыя людзі, якія мелі шчасьце яшчэ малымі сьпяшыць у Царкву, пачынаючы ад Вялікага Чацьвярга, і аж да Сьветлае Заўтрэні ўначы на Нядзелю, а пасьля — валачобнікі, сьпевы й вясёлыя гульні праз некалькі дзён! І радасным рэхам адбівалася яно ў душах і сэрцах

малых і старых праз увесь год, каб ад новай Вербніцы ізноў рыхтавацца да яго! Таму, хоць усе народы, не зважаючы на свае розныя назовы Вялікадня, бачаць у ім той самы зьмест, і багаты, радасны, містычны сэнс, аднак, чароўнасьць і краса яго найлепш праяўляецца ў чыстай беларускай душы! Бо толькі душа нашага Народу поўнасьцю адлюстроўвала зьмест і сэнс Вялікадня: цьвёрдую веру ў перамогу жыцьця над сьмерцю, дабра над злом, праўды над ілжою, сьвятла над цемраю, свабоды над зьдзекам і гвалтам, ад якіх мы можа больш ад іншых цярпелі. Таму наш Народ запраўды шчыра й радасна сьпяваў і верыў, што „Сам Хрыстос і ў нас па зямлі хадзіў"... І мы цяпер будзем цьвёрда верыць, што Ён ізноў будзе хадзіць па зямельцы Вольнае й Незалежнае Беларусі! ХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! Радуйцеся!

*С. Клім*

---

## *УВАСКРЭСЬНЕ БЕЛАРУСЬ!*

**Няверцаў здрадай катаваны,**
**Расьпяты быў Ісус Хрыстос.**
**Хоць меў няўгойныя Ён раны**
**І боль насьцерпны, а — УВАСКРОС!**

**Зьнёс мукаў шмат мой край каханы,**
**Сьцяў і яго Хрыстосаў лёс:**
**Яму хоць цяжка, хоць балесьне,**
**Ён будзе жыць, ён УВАСКРЭСЬНЕ!**

**А. САЛАВЕЙ.**

---

## ХТО СТВАРЫЎ СЬВЕТ — ЖЫЦЬЦЁ

Кажны з вас, паважаныя чытачы, напэўна ці раз спыняўся над пытаньнем аб ЗЬЯЎЛЕНЬНІ й РАЗЬВІЦЬЦІ СЬВЕТУ — ЖЫЦЬЦЯ. У сувязі з гэтым перад вамі паўставала іншае пытаньне: ці сьвет, а гэтым і вашае жыцьцё, толькі звычайны ПРЫПАДАК, ці тут была нейкая творчая, вышэйшая Воля?

Фізыкі, астраномы й біялёгі далі нам ужо шмат розных гіпатэзаў аб паўстаньні плянэтаў ды адначасна й аб зьяўленьні жывых арганізмаў на іх — жыцьця наагул. Розныя навуковыя тэорыі, галоўна біялягічныя, вытлумачваюць справу зараджэньня ЖЫЦЬЦЯ трыма спосабамі: 1) Абіягенэтычным — жыцьцё зарадзілася ПРЫПАДКОВА. 2) Тэрэстрычным — жыцьцё было занесенае на зямлю энэргіяй сьвягла з космасу — зь іншых плянэтаў, і 3) Крэатычным — жыцьцё паўстала з волі Ўсемагутнага Бога.

Усе матэрыялістыя й бязбожнікі, галоўна бальшавікі, даўгі час ашуквалі нясьведамых людзей гэтым другім спосабам: зародкі жыцьця былі перанесеныя на нашую зямлю з космасу — зь іншых плянэтаў. Але навука ўжо канчальна выясьніла, што ніякія жывыя зародкі не маглі прайсьці непарушнымі праз бязьмежныя прасторы без паветра, таму ніяк не маглі стацца асноваю зараджэньня жыцьця на зямлі. Тады бязбожнікі ўхапіліся за першую тэорыю: жыцьцё зарадзілася на нашай зямлі ПРЫПАДКОВА! Або інакш кажучы, зарадзілася само сабою зь неарганічных элемэнтаў, такіх як: вапна, вугаль, кісларод, вадарод, азот, фосфар, зялеза і г. д. Бальшавікі ў сваіх бязбожніцкіх творах так і пісалі: у свой час гэтыя неарганічныя элемэнты прыпадкова злучыліся ў жывую бялковую малекулу-клетку, зь якой ужо паўсталі расьціны, з расьцінаў жывёліны, а зь іх — чалавек. Яны далей дурылі нясьведамых людзей, што, маўляў, вось ужо вучоныя самы стварылі ў сваіх лябараторыях бялковую малекулу — аснову ўсякага жыцьця! Але ашуквалі нядоўга, бо неўзабаве было таксама навукова сьцьверджана, што ніякі вучоны ня можа стварыць жывую бялковую малекулу навет пры найлепшых абставінах. Не зважаючы на гэта, бальшавікі, безь ніякага сораму, і цяпер цьвярдзяць, што жыцьцё зарадзілася само сабою, прыпадкова. На гэта некаторыя ставяць ім такое простае пытаньне: ці можа прыпадкова зьявіцца хоць-бы такі, скажам, гадзіньнік? Ці ён патрабуе для свайго зьяўленьня розуму й рукі майстра?

Але, бязумоўна, такое важнае пытаньне, як зьяўленьне жыцьця, ня можа быць разьвязанае навет падобнымі слушнымі пытаньнямі. Для кажнага пабожнага чалавека наагул непатрэбныя ніякія падобныя пытаньні, бо ён непахісна верыць, што ўвесь сьвет, а гэтым і жыцьцё, створаныя Богам. Аднак, ёсьць людзі, якія патрабуюць „довадаў", хочуць, як той Тамаш, навочна пераканацца, перадусім сваім розумам, пабачыць і сьцьвердзіць.

Для такіх людзей нядаўна выдаў сваю выдатную кнігу найбольшы сучасны біялёг Лекомт дэ Нюі пад назовам: „Прызначэньне Чалавецтва". Кніга гэтая ўжо перакладзеная блізу на ўсе мовы сьвету й разыйшлася ў міліёнах экзэмпляраў, а „Рыджэрс Дайджэст" называе яе „Новым сьветкам Бога".

Аўтар яе, як біялёг, дасканальна разумее зьяўленьне й разьвіцьцё жыцьця арганізмаў і сьцьвярджае, што жывыя арганізмы, а гэтым і людзі на зямлі, НЕ МАГЛІ ЗЬЯВІЦЦА ПРЫПАДКОВА. Гэтую сваю думку ён пацьвярджае такімі фактамі, якія ясныя й зразумелыя кажнаму: ЛІКАМІ, бо-ж кажны, хоць крыху пісьменны чалавек ведае, што два разы два будзе чатыры.

Аўтар найперш паясьняе нам, што мы разумеем пад прыпадковасьцяй, або праўдападобнасьцяй нейкага здарэньня. Ён кажа, што гэта дачыненьні лікаў, што спрыяюць гэтаму здарэньню, да ўсіх магчымых лікаў. І дае прыклад гульні ў варла й арэшку. Лік магчымасьцяў тут — два: арол або арэшка, і тое й другое тут аднолькава магчыма. Значыцца, калі манэту кінем угару, дык пакуль яна ўпадзе, кажны з гульцоў мае аднолькавую надзею на выйгрыш, а фактычная пэўнасьць кажнага зь іх, або магчымасьць ці праўдападобнасьць, будзе адзін падзелены на два, бо-ж упадзе арол або арэшка, значыцца, прыпадак тут для кажнага гульца будзе — палавіна, або 50%. Але калі мы возьмем гульню ў косьці, кубік з шасьцьма бакамі-лікамі, дык тут ужо надзея на прыпадак-выйгрыш будзе: адзін падзелены на 6, або ўжо толькі прыблізна 16%.

Але гэта толькі пачатак. Навука прыпадку-праўдападобнасьці вучыць нас: гульцы ў варла й арэшку кажны раз маюць тыя самыя шансы на выйгрыш. Гэта значыць, калі адзін зь іх паставіў на арла й выйграў, дык і другі раз ён мае той самы шанс выйграць, застаецца тая самая палавіна. Але, калі ў косьці выйграў лік 5, дык шанс гэ-

тага гульца на выйгрыш другі раз за сабою будзе ўжо не адна шостая, а 1/6 памножаная на 1/6, значыцца, ужо толькі 1/36, або ўжо толькі 2,7%. Надзея на прыпадак гэтага гульца атрымаць пятку пяць разоў за сабою ўжо толькі 0,001%! Як бачым, шансы на выйгрыш таго самага ліку кажны раз раптоўна падаюць. Тэаратычна лік 5 можа й 10 разоў упасьці за сабою, але пэўнасьць на такі прыпадак ужо такая малая, бо толькі адна дзесяціміліённая працэнту, што практычна гэта ўжо зусім немагчыма. Бо-ж тэаратычна такі гулец можа атрымаць сваю пятку 10 разоў за сабою толькі тады, калі кубік быў-бы кінуты 60 міліёнаў разоў, што гульцы маглі-б зрабіць на працягу двох гадоў, кідаючы кубік кажную сэкунду дзень і ноч, а гэта практычна немагчыма.

Яшчэ болей цікавыя лікі мы атрымаем, калі возьмем трубку, у якой нагары будуць ляжаць 1000 белых пылінак адна на адной, а ўнізе 1000 чорных, таму трубка да палавіны будзе чорная, а ў другой палавіне белая. Пасьля перавернем трубку так, каб пылінкі высыпаліся ў прынітаваную нагары кульку. Калі пасьля высыплем іх назад у трубку, яна ўжо будзе шэрая, бо пылінкі перамяшаліся. Колькі разоў, паводля тэорыі праўдападобнасьці, мы павінны перасыпаць гэтыя пылінкі, каб яны ізноў падзяліліся на белыя й чорныя? Адказ: 10 з 600 нулямі разоў, бяручы на ўвагу, што 10 з адным нулём дае 100, з двума 1000 і г. д. Ясна, такіх лікаў, як 10 з 600 нулямі, мы сабе ўявіць ня можам. Бо, калі прыпусьцім, што нашая зямля існуе ўжо два міліярды гадоў, дык лікава гэта будзе: 2 памножанае на 10 толькі з 8 нулямі, а сэкундаў у гэтых 2 міліярдах гадоў будзе: 2 памножанае на 10 з 17 нулямі!

Гэтыя свае навуковыя разважаньні й лікі аўтар падае не надарэмна, бо вось пераходзім да галоўнага: праўдападобнасьць прыпадковага зараджэньня жыцьця на зямлі. Асноваю ўсякага жыцьця зьяўляюцца вялікія бялковыя злучэньні: малекулы, пратэін. Ці маглі яны паўстаць прыпадкова? Кажная малекула складаецца з большай, або меншай колькасьці атомаў, а кажны атом мае сваю вагу, прыкладам: вадарод — 1, вапна — 2, Кіслярод — 2, а такі найцяжэйшы атом урану — 236. Нашая звычайная соль складаецца з двох атомаў: натрыя й хлёру, а сода, якую мы п'ём, з трох: натрыя, вугля й кіслароду, а цукер з вугля, вадароду й кіслароду. Усё гэта неарганічныя злучаніны, бо ў іх няма азоту — асновы бялка, жывое матэрыі. А найпрасьцейшая бялковая злучаніна складаецца з 2.000 атомаў, і хімічная вага такой злучаніны — 20.000! Таму, паводля навуковае тэорыі праўдападобнасьці, такая злучаніна можа паўстаць з падзіночных атомаў, або малых малекулаў, шляхам ПРЫПАДКУ толькі на працягу 10 з 243 нулямі гадоў! Тымчасам навука цьвердзіць, што зараджэньне жыцьця на зямлі, пасьля яе ахалоджаньня, не магло настаць раней як міліярд гадоў таму, што ў ліках дае 10 з 8 нулямі!

Такім чынам, зазначае аўтар, гэтыя навуковыя дадзеныя ясна й дакладна гавораць нам: ЖЫЦЬЦЁ НА НАШАЙ ЗЯМЛІ НЕ МАГЛО ЗАРАДЗІЦЦА ПРЫПАДКОВА! Бязумоўна, дадае аўтар, заўсёды можна прыпусьціць, што жыцьцё на зямлі ўсё-ж зарадзілася прыпадкова, толькі такое прыпушчэньне ўжо ляжыць ВОНКАХ межаў навукі, і яно завецца ЦУДАМ! Адсюль, кажа аўтар, для нас паўстае пытаньне: або прыпусьціць, што ўся нашая навука ХВАЛЬШЫВАЯ, чаго ніхто не адважыцца цьвердзіць, або ПРЫЗНАЦЬ, што на сьвеце існуюць ЦУДЫ, ад нашае волі незалежныя, і нашай кантролі, або нашаму розуму, не падлягаючыя, а кіраваныя й твораныя ВЫШЭЙШАЙ СІЛАЙ — БОГАМ. І аўтар, вялікі сучасны вучоны, гэтыя свае разважаньні канчае так: „Такім чынам, між няжывою й жывою матэрыяй існуе прорва, якую ніякая навука ня можа запоўніць, або празь яе палажыць мост".

Што мы можам дадаць да гэтага аўтарытэтнага сьцьверджаньня сучаснае навукі? Хіба толькі адно: падзякаваць ёй за гэтую яе мудрасьць. Бо-ж мудрасьць, як дасканальнасьць і праўда, гэта аснова свабоды, тэй свабоды, на падставе якой мы выкарыстоўваем свой дар Божы — розум, каб тварыць дабро, культуру й шчасьце людзей. Інакш, калі-б чалавецтва й далей заставалася ў цемры што да асноваў, прычынаў і заданьняў, а гэтым і мэтаў нашага жыцьця, дык свабода сталася-б нашай небясьпекай і магла-б прывесьці нас да загібелі.

Зброя ў руках мудрага — вельмі добрая й карысная рэч у змаганьні з драпежнікамі, але ў руках засьлепленага, або дзіцяці яна можа быць вялікім злом. Сучасная ўлада бязбожнікаў дасканальна паясьняе нам гэтую думку. Будзем толькі верыць, што Усемагутны Бог, Каторы ўсё стварыў і ўсё кіруе, учыніць Свой наступны ЦУД: паможа вольнаму сьвету перамагчы ўладу няпраўды, нясьведамасьці, цемры й зла.

*А. В.*

---

## ЯНЫ ПЕРАМОГУЦЬ

— Ойча, у рукі Твае аддаю дух Мой! Сталася! Прамовіў гэтыя апошнія словы Сваe Адкупіцель сьвету на Крыжы, і — памер.

І вось заслона ў царкве разарвалася зьверху данізу, і зямля затраслася, і сонца пацямнела, і скалы патрэскаліся, і памёршыя выйшлі з магілаў сваіх. Сотнік жа рымскі адвярнуўся ад Крыжа й сказаў: запраўды, Чалавек гэты быў Сынам Божым!

У палацы жа сваім сядзеў галоўны вінавайца ўкрыжаваньня Сына Божага фактычны глава Сынэдрыёну, стары першасьвяшчэньнік Анна. Насупраць яго сядзеў ягоны зяць і выканаўца ягоных загадаў, цяпер урадуючы першасьвяшчэньнік Кайафа. Анна страціў свой супакой, замахаў вахляром ды ўрэшце сказаў: „Ну й гарачыня сяньня, якую сьпеку мы неўзабаве будзем мець!"

— Ці ты не зразумеў мяне, што я сказаў: у горадзе неспакойна! зьбянтэжана паўтарыў ужо каторы раз Кайафа.

— Ты добра ведаеш, Кайафа, што цяпер у нас вялікае сьвята, усюды поўна народу.

— Поўна хрысьціян, злосна паправіў яго Кайафа. Мне здаецца, што ты ня хочаш гэтага бачыць. Нядаўна я намаўляў цябе, каб ты стаў на чале нашага змаганьня з гэтым ашуканцам, Ісусам з Назарэту, а цяпер...

— А цяпер, шорстка перарваў яго Анна, вучні гэтага ўкрыжаванага ашуканца вярнуліся ў Ерусалім і здабылі ўжо тры тысячы новых пасьлядоўнікаў!

— Пяць тысяч, агрызнуўся Кайафа. Небясьпека паўстаньня цяпер большая, чым была тады, калі Ён жыў!

— Ты пэўны, што Ён памёр? ціха запытаўся Анна.

— Ты жа сам бачыў, што Ён памёр! — Не, я не чакаў да гэтага мамэнту. Але, Кайафа, што ты думаеш адносна Ягонага цела?

— Ён быў пахаваны. І тут ізноў гісторыя! Ці ты ведаеш ,што Ён быў пахаваны ў гробе Язэпа Арымафейскага? Ды яму памагаў другі наш здраднік — Нікадым. Яны завінулі цела Ягонае, паводля нашых цэрэмоніяў, у тканіну й намасьцілі найлепшым алеем! Ох!

— Ці цела гэтага ашуканца яшчэ ў гробе? — Не!

— Што ты кажаш? Яго няма там? — Не, сказаў жа я!

— Яно прапала? — Так!

— Але як, куды, Кайафа? Што, ты ўжо развучыўся гаварыць?

— Яно ўкрадзенае! — Ага, так. Але чаму Язэп з Нікадымам не даглядзелі, каб той вялікі камень быў добра прыкладзены да дзьвярэй гробу?

— Ён быў, але... — Што але? Ці-ж ня была там старожа?

— Была. Я ведаю гэта. — Ты ведаеш. Так, ты жа сам пасылаў яе туды. Як жа тады мог нехта ўкрасьці цела?

— Ох, я ня ведаю, застагнаў Кайафа! А як я бы хацеў ведаць!

— Кайафа супакойся, і слухай. Ня думай, што я не цікавіўся гэтаю справаю. Я меў усюды сваіх людзей. Так, цела ў гробе няма!

— О, гэтыя звадыяшы, — вучні...

— Укралі цела? Не! Аны не маглі гэтага зрабіць, хоць бы й хацелі, бо старожа была моцная. Маглі-б, скажам, Язэп з Нікадымам не пахаваць цела там. Яны маглі-б ашукаць цябе, бо ніколі табе не давяралі, тым болей, што маглі-б падумаць і аб тым, што ты выкінеш яго зьвяром на разарваньне. Але я ўжо дакладна гаварыў зь імі аб гэтым і пераканаўся, што яны нічога ня ведаюць, і самы ў вялікім страху. Так, вось, цела прапала перад самым тваім носам.

— Тады можа Пілат? — Не, адказў Анна. Ён стараўся ўратаваць Ісуса пры жыцьці, а цяпер яму навет на дум ня прыйдзе клапаціцца нейкім целам праступніка.

— Дзе-ж яно можа быць, мой цесьцю?

— Анна пачаў нэрвова сьмяяцца. Ты ня ведаеш? Хрысьціяне жа кажуць, што Ён УВАСКРОС! На трэйці дзень, як прадсказалі прарокі й як Ён Сам сказаў! І гэта, маўляў, Ласка Яго для ўсіх Ягоных пасьлядоўнікаў, што й яны ўваскрэснуць для новага, вечнага жыцьця!

— Цікава! Ты прыпамінаеш мне тое, што яны гавораць, у страху застагнаў Кайафа. Пётра, Якуб, Ян ды іншыя па вуліцах пашыраюць гэтую ілжу: Ісус Хрыстос — Сын Бога Жывога! Ён Уваскрос із мёртвых! Яны ўжо ўсе бачылі Яго, гаварылі зь Ім! Усё гэта я чуў на свае вушы! Я толькі шкадую, што яшчэ не дапытаў садоўніка, што ён ведае тут.

— Не патрабуеш! Я сам ужо гаварыў зь ім, а таксама з рымскімі жаўнерамі ды з многімі хрысьціянамі. Адказы й уражаньні ўсіх былі адны й тыя-ж. І я пераканаўся, што яны гаварылі праўду. Лонгін, рымскі жаўнер, навет сказаў мне, што ён пікаю прабіў бок Ісуса, і што з раны пацякла кроў і вада. Іншыя гаварылі, што калі зямля затраслася, зьявілася вялікае сьвятло зь неба, ці Ангелы, і ўсе ў страху пападалі. Пасьля прыйшла Марыя Магдаліна зь міррам і пахучым алеем да Гробу, каб памазаць цела, але не знайшла яго там і ў страху пабегла да вучняў Ісуса, і крычала, што зладзеі ўкралі цела Яго. Я ня ведаю, як Ангелы выглядаюць, таму не магу сабе ўявіць гэтага.

— Навошта ўяўляць, ці-ж гэта не надарэмная трата часу?

— Гэта, Кайафа, залежыць ад таго, ці ты тут хочаш штось зразумець. Вось тут я запісаў, што сказаў жанчынам Ангел: „Вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага? Яго няма тут: Ён УВАСКРОС! Ідзеце й скажыце вучням Яго, што Ён чакае на іх у Галілеі...

— І я дагадваюся, што ты паслаў сваіх агентаў туды!

— Нажаль, не! Я зусім ня веры гэтаму апавяданьню.

— Спадару Анна! Кайафа ўстаў і горда прадаўжаў: ці ня хочаш ты пераканаць мяне, што ты цяпер ВЕРЫШ гэтаму? Або можа хочаш давесьці мне, што Ісус з Назарэту — Уваскрос?

— Я ня ведаю, з насьмешкаю адказаў Анна. Я хацеў бы ведаць, але ня ведаю.

— Ты ведаеш, што навет сама такая думка — бязглуздзіца!

— Анна холадна адказаў: слухай і судзі сам. Я дакладна дапытаў жанчын і вучняў. Я ніяк ня мог прымусіць іх, каб яны супярэчылі хоць у драбніцах. Усе яны беглі да Гробу й верылі ў Уваскрасеньне ня больш, чым я, або ты.

— Гэта мяне мала цікавіць. Я ведаю, што ты быў няўдалым паэтам, а пасьля стаў выдатным палітыкам. Маю я слухаць далей? І якая твая мэта тут, спадару Анна?

— Мая гэта тут — паказаць табе лёгіку, здаровы розум, мой зяцю! Мы павінны ўзяць на ўвагу толькі самыя факты. Вось Ён зьявіўся двом вучням Сваім па дарозе ў Эммаус, болей таго, навет усім ім тут — у Ерусаліме. Але тут сталася цікавая рэч: адзін з вучняў — Тамаш ня быў прыгэтым, і калі пасьля іншыя расказалі яму, што пабачылі Ісуса, ён ім не паверыў.

— Першы хрысьціянін, што мае здаровы розум!

— Першы вучоны, магчыма. Аднак, Хрыстос вярнуўся, каб пераканаць Тамаша, і паказаў яму раны Свае. І сказаў Тамаш: Гасподзь мой і Бог мой! А Ісус адказаў яму: ты паверыў, бо пабачыў Мяне, шчасьлівыя тыя, што ня бачылі, а паверылі!

— Але-ж гэта, закрычаў Кайафа, супярэчыць усякаму розуму!

— Бясспрэчна! Але за сябе я рад, не люблю панурых ідэяў!

Шмат яшчэ апавядаў Анна аб тым, што ён чуў ад сваіх агентаў пра Хрыста. Урэшце Кайафа сказаў: я прыйшоў да цябе, каб з табою выпрацаваць плян наважнага чыну.

— Ты жадаеш яшчэ больш наважных чынаў? — Так, адказаў Кайафа.

— Але я чуў, што ты ўжо распачаў гэтыя свае чыны. Ці-ж не

асудзіў ты нейкага Сьцяпана, і ці-ж не забілі вы яго каменьнямі, а хрысьціяне абвесьцілі яго ўжо сваім першым мучанікам? І ці не здаецца табе, што гэтая сьмерць пярэчыць усяму таму, што ты тут толькі што гаварыў? Ці знойдзеш ты чалавека, які бы хацеў так памерці дзеля нейкага скамароха, ашуканца? Сьцяпан быў між тымі, што бачылі Ісуса, калі Ён паказваў ім раны Свае...

— Я ўсё яшчэ не разумею...

— Магчыма ты ніколі не зразумееш. Аднак, паслухай: ты прыпамінаеш, што ў тую ноч, калі мы судзілі Ісуса, адзін з вучняў тройчы адрокся ад Яго, а ўсе іншыя разьбегліся. Чаму? Бо баяліся, бо страцілі веру ў Яго, як Месію, хоць магчыма раней і верылі. Што-ж зрабіла іх ізноў адважнымі? Яны ведаюць, што сьмерць ходзіць за імі, і ўжо не баяцца яе! Яны ведаюць, што на IX чакае, і што на ЦЯБЕ чакае. Сьвет будзе лепшым, Кайафа, толькі тады, калі яны перамогуць. І ЯНЫ ПЕРАМОГУЦЬ! Мы можам толькі забіваць іх, але яны могуць перамагчы нас. Чаму для іх ужо ўсё роўна: жывуць яны ці паміраюць? Толькі таму, што яны пабачылі сваяго Уваскросшага Вучыцеля, таму жыцьцё і сьмерць для іх цяпер — рэч другарадная, галоўнае для іх цяпер — УВАСКРАСЕНЬНЕ.

Яны на мамэнт замоўклі. Толькі Кайафа напружана думаў пра безаглядная змаганьне. Урэшце сказаў: спадару Анна, басьні пра Уваскрасеньне дзяцінныя. Толькі навука іхная не дзяцінная, але — разбуральная!

— Добра, адазваўся Анна. Рабі, што хочаш. Але памятай, Кайафа, карэньні гэтыя глыбокія й хутка разрастаюцца. Ці ты тут нешта асягнеш, адзін Бог ведае. Я толькі маю жахлівае пачуцьцё, што мы груба памыліліся й гісторыя можа асудзіць нас. Горш таго, можа асудзіць увесь наш народ, увесь Ізраіль, і ўсух тых, што баяліся Праўды.

— Што ёсьць Праўда? Пілат паставіў Яму гэтае пытаньне. Маеш ты адказ?

— Не, Але цяпер я веру, што Праўдай ёсьць тое, што мы прыбілі цьвякамі да Крыжа й пахавалі, і — Праўда, як і заўсёды, УВАСКРЭСЛА! Я ўжо стары й слабы. Добрай ночы, Кайафа.

*(Паводля кніжкі Ф. Аўсьлера: „Жыцьцё Хрыста").*

---

## АД РЭДАКЦЫІ

Пачынаючы выдаваць наш орган „ГОЛАС ЦАРКВЫ", мы пэўныя, што паважаныя чытачы ўжо ад першага ягонага нумару зразумеюць тую нашую думку, што значэньне кажнага часапісу наагул не ў назове, а ў зьмесьце. Мы маем прыгэтым на ўвазе толькі адно жаданьне, каб наш часапіс стаўся Сейбітам Праўды Божае й нашае, узмацняў наш дух тут на эміграцыі Словам Божым, стаўся тою Жывою Вадою, аб якой гаварыў Спасіцель наш Самаранцы пры студні: „Калі-б ты ведала дар Божы, і Хто кажа табе: дай мне піць, то ты сама прасіла-б у Яго, і Ён даў бы табе Жывое Вады, што цячэ ў жыцьцё вечнае" (Іо. 4:10, 14).





І гэтую Сваю Жывую Ваду — Слова Божае Спасіцель наш запаведаў сьв. Апосталам нясьці усім людзям, усім народам: „Навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам" (Мц. 28, 19-20). І паняслі сьв. Апосталы гэтае Слова Божае па ўсей зямлі праз свае сьв. Цэрквы ўсім народам. І яно, як сьвятло Навукі Спасіцеля нашага, сталася выразам Ласкі Божае й для нашага Беларускага Народу. І наш Народ збудаваў сваю сьв. Царкву, праз якую нашыя натхнёныя Пастыры прапаведвалі яму „выпаўняць тое, што Спасіцель наш сказаў нам": піць Ягоную Жывую Ваду для дабра й шчасьця на зямлі й вечнае радасьці на Небе.

Цярністы, адначасна слаўны быў шлях нашае сьв. Праваслаўнае Царквы, непарыўна зьвязаны з жыцьцёвым шляхам нашага Вялікага й шматпакутнага Народу. І аб гэтым шляху нашае сьв. Царквы мы таксама будзем апавядаць у нашым часапісе. У сувязі з тым, што гэты наш першы нумар „Голасу Царквы" выключна Вялікодны, мы абмяжуемся тымчасам толькі аднэй паважнай зацемкай з гісторыі нашае сьв. Царквы.

Урад нашае Беларускае Народнае Рэспублікі, між іншымі сваімі дзяржаўнымі справамі, адразу заняўся й справай нашае Роднае Праваслаўнае Царквы. Дзеля гэтага ён зьвярнуўся з Мэмарыялам у гэтай справе да тагачаснага Патрыярха, і атрымаў ад яго ліста, які мы ніжэй падаем да ведама нашых чытачоў. Нажаль, мы тымчасам ня маем ліста Ураду БНР, таму ня ведаем, ці ён у ім ставіў пытаньне аб Аўтакефаліі нашае Царквы. Аднак, трэба лічыць, што так, прыймаючы на ўвагу, што праз пару год пасьля ліста патр. Ціхана Аўтакефалія нашае Царквы была ўрачыста абвешчаная ў Менску ў 1922 г.

Патрыярх Ціхан пісаў:

СТАРШЫНІ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ.

З прычыны Вашага ліста ад 14-га студзеня г. г., за № 104, маю гонар паведаміць наступнае:

Мэмарыял Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі „Аб палажэньні Праваслаўнай Царквы ў Беларусі і, галоўным чынам, пад польскай акупацыяй", высланы 27-га студзеня мінулага году, у свой час мною атрыманы.

Дзеля асаблівае вагі паднятых у гэтым Мэмарыяле пытаньняў, ён перададзены мною на абмяркаваньне Сьвяшчэннага Сыноду й Вышэйшай Царкоўнай Управы, што складаюць пад маім старшынствам і прадстаўляюць увесь Япіскапат і верных Правасл. Царквы.

Пасьля самых дакладных абмяркаваньняў, Вышэйшая Царкоўная Управа пастанавіла:

1) Дазволіць Прэасьвяшчэнным Беларускіх Епархіяў (Літоўскай, Горадзенскай, Менскай, Магілеўскай, Полацкай і інш.), у выпадку паступленьня ад бальшыні парафіян просьбаў аб ужываньні Беларускае мовы ў так званых дадатковых багаслужбах, у пропаведзях, катэхізацыі й інш., карыстацца ў тых Храмах Беларускаю моваю.

2) Прапанаваць Прэасьвяшчэнным тых-жа Епархіяў прыступіць, калі гэта будзе магчымым, да выдаваньня на Беларускай мове пропаведзяў, багагласьнікаў і Новага Запавету.

Што датычыць пажаданьня Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі аб прызначэньні на Япіскапскія катэдры ў Беларусі асобаў, якія валодаюць Беларускаю моваю, дык ажыцьцявіць гэтае пажаданьне ўжо цяпер амаль немагчыма, бо прышлося-б без належных прычын пераводзіць некалькі япіскапаў, якія, хоць і не валодаюць Беларускаю моваю, але карысна працуюць для праваслаўнае справы ў Беларусі. Але адначасна, прызнаючы выказанае Вамі пажаданьне справядлівым, Вышэйшая Царкоўная Управа пастанавіла мець гэтае пажаданьне на ўвазе ў далейшым, пры пазьнейшых замяшчэньнях Архірэйскіх катэдраў у Беларускіх Епархіях.

Паведамленьні вышэйназваным Прэасьвяшчэнным аб успомненых двох пастановах Вышэйшае Царкоўнае Управы былі ўжо тады-ж высланыя ім. Падрыхтаваны быў і адказ Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі, але, дзеля нястачы нагоды, адразу ня мог быць высланы, а пасьля трапіў у лік дакумантаў, выдрукаваных цывільнай уладай у былым памешканьні Канцылярыі Вышэйшае Царкоўнае Управы.

Прызываю на ўвесь Беларускі Народ багаслаўленьне Божае й маліцьвенна жадаю, каб Гасподзь узмацніў ягоныя сілы ў абароне інтарэсаў РОДНАЙ (падкр. нашае) для яго Праваслаўнай Царквы.

Прызываю багаслаўленьне Божае й на Вашую працу, і на працу ўсяго Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі.

ЦІХАН, Патрыярх Маскоўскі й усяе Русі.

(„Беларускі Сьцяг", штомесячнік. Коўна, красавік, 1922. № 1, бач. 27-28).

Мы тымчасам абмяжуемся толькі гэткай заўвагай: ужо Патрыярх Ціхан пагадзіўся на беларусізацыю нашае Царквы, і прызнаў, што яна мае быць РОДНАЙ для нашага Народу, а што зрабілі амаль 30 год пазьней нябожчыкі Панцелейман, Бэнэдыкт, ды на сорам нам, навет беларускія Іерархі, усе мы ўжо добра ведаем. Толькі, дзякаваць Богу, застанавіць Жывой Вады для нашага Народу яны ўсё-ж не патрапілі. Яны адыйшлі, а сьв. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква — жыве й працуе! Працуе й радуе ўсіх нас!

---

## ХРОНІКА

**АМЭРЫКА. Нью-Ёрк.** Прыход і сьв. БАПЦарква былі заснаваныя тут ужо ў 1950 г. дзякуючы стараньням беларускага грамадзтва й Настаяцеля, Пратаіерэя, а. Хведара **Данілюка.** Асабліва-ж з прыездам сюды Высокапрэасьвяшчэньнейшага Архіяпіскапа **Васіля** сьв. Царква нашая стала ўзмацняецца. Божыя Службы рэгулярна адбываюцца ў Царкве сьв. Тройцы, акрамя таго, памалу наладжваецца духовая апека й паза Царквою. У сувязі з кажным нашым нацыянальным сьвятам, Уладыка Васіль, у асысьце нашага Духавенства, служыць Малебны й Паніхіды за жывых і памершых нашых суродзічаў і за ўвесь Беларускі Народ. Ужо другі год праводзіцца навучаньне рэлігіі, Закону Божага, для беларускіх дзяцей. Царкоўная Рада таксама самаахвярна працуе для дабра нашае сьв. Царквы й яе вернікаў. Пасьля Каляд Уладыка Васіль зь некалькімі харыстымі абыйшоў усіх нашых вернікаў з Крашчэнскаю вадою зь вялікім маральным і матарыяльным посьпехам, бо Царкоўная касса прыгэтым узбагацілася звыш 100 далярамі. Царкоўная Рада выдала насьценны Каляндар на 1955 г., пачала выдаваць рэлігійны часапіс, рыхтуе веснавую забаву дзеля ўзмацненьня выдавецкага фонду БАПЦ, ды шэраг іншых імпрэзаў і мерапрыемстваў. Царкоўным Хорам добра кіруе наш вядомы дырыгент, Сп. А. Каптуровіч.

З Божай дапамогай і пад апекай сваіх Пастыраў беларуская Праваслаўная Грамада ў Нью-Ёрку мае надзею зрабіць яшчэ шмат чаго на славу Божую, на дабро нашае сьв. БАПЦарквы й на карысьць нашае Маці-Беларусі.

**НЮ БРАНСЬВІК — САУТ РЫВЭР.** Нашая сьв. БАПЦарква была заснаваная тут у 1951 г. на чале зь яе Настаяцелем, Пратаіерэем а. Сьцяпанам **Войтэнко.** Патрэба заснаваньня яе была вялікая, бо ніякая іншая царква не адпавядала рэлігійным і нацыянальным пачуцьцям нашых сьведамых суродзічаў. Дзякуючы самаахвярнай працы а. Сьцяпана й Управы Царкоўнае Рады, нашая сьв. БАПЦ адразу пачала добра разьвівацца, а колькасьць прыхажан павялічвацца. Цяпер Прыход БАПЦ тут налічвае звыш сто вернікаў, і Службы Божыя рэгулярна адбываюцца ў прыгожай залі мясцовае амэрыканскае Царквы.

Пры парафіі БАПЦ існуе Беларуская школа, у якой заняткі праводзяцца стала кажнае суботы. Нашыя дзеткі вывучаюць тут сваю Родную мову, Закон Божы й гісторыю Беларусі.

Дзякуючы самаахвярнай працы Царкоўнае Рады, матарыяльна Прыход наш добра забясьпечаны. Робяцца ўжо захады, каб пабудаваць свой Беларускі Народны Дом, у якім бы зьмясьцілася й нашая сьв. Царква. Тут неабходна падзякаваць нашаму самаахвярнаму дырыгенту Царкоўнага Хору, паважанаму Сп. Ф. Родзько.

**КЛІУЛЭНД.** Дзякуючы стараньням Уладыкі Васіля й самаахвярнай працы мясцовае Управы Царкоўнае Рады, нашая сьв. БАПЦ была заснаваная тут у 1951 г. на чале зь яе Настаяцелем а. Еўфіміем **Якіменко.** У Кліўлэндзе прабывае нашая прыгожая, дружная беларуская грамада, таму й сьв. Царква нашая тут адразу пачала добра разьвівацца. Службы Божыя адбываюцца рэгулярна ў прыгожай залі мясцовае амэрыканскае Царквы. З а. Е. Якіменко служыць і наш паважаны а. Протадыякан К. Савіцкі, таму й Службы Божыя ў нас заўсёды прыгожыя, а калі да нас прыехаў наш выдатны кампазытар і дырыгент Царкоўнага Хору Сп. М. Куліковіч, дык яны сталіся запраўды нязвычайна ўрачыстыя, тым болей, што ў нашым хоры ёсьць ня мала выдатных сьпявакоў і сьпявачак. Таму ня дзіва, што амаль усе беларусы ў нас з радасьцяй наведваюць сваю сьв. Царкву, любяць яе, і не шкадуюць для яе ніякіх ахвяраў.

Гэтая адданасьць і любоў нашых вернікаў да свае Роднае БАПЦарквы ўжо дала нам магчымасьць распачаць захады для набыцьця свайго собскага Народнага Дому, у якім бы мясьцілася й нашая сьв. Царква. Памажы Божа!

**АНГЛІЯ.** Нашая сьв. БАПЦ распачала сваю дзейнасьць тут у 1950 г. у Брадфордзе, дзе й была зарганізаваная Вікарыяльная Управа на чале з **Настаяцелем,** а. Аляксандрам **Крытом.** Невялікая, але моцная духам, нашая грамада тут здабылася на вялікі высілак: прыдбала ўласны грамадзкі Дом, у якім і знаходзіцца нашая сьв. Царква. Дабрадатнасьць яе не абмяжоўваецца толькі Брадфардам. Айцец Аляксандар стала наведвае расьцярушаных беларусаў па ўсёй Англіі. Усюды радасна вітаюць яго нашыя суродзічы, бо ён прыносіць ім немалую пацеху й спажыву для душы Словам Божым. Ужо не адна заблудзіўшая авечка павярнула да нашае грамады, каб цешыцца й радавацца разам з намі.

Але асабліва дабрадзейны быў уплыў нашае сьв. Царквы на нашых патрыётаў у МАНЧЭСТЭРЫ. Бог, Царква й Бацькаўшчына — вось асновы жыцьця й працы нашых суродзічаў там. Яны зарганізавалі свой Прыход БАПЦарквы й часта запрашаюць а. Аляксандра да сябе, каб разам зь ім памаліцца за посьпех нашае

Роднае Маці — БАПЦарквы, ды за ўвесь наш любы й шматпакутны Народ Беларускі. Тут а. Аляксандар упяршыню выканаў сьв. Таінства Шлюбу для беларускіх сужэнцаў, тут ахрысьціў першае дзіця. Таму ня дзіва, што нашыя манчэстарцы заўсёды сьпяшаць яму з дапамогай, асабліва ў часе ягонае хваробы.

Нашыя манчэстарцы заўсёды ўважаюць агульнае нашае дабро вышэйшым за свой асабісты дабрабыт, таму не пашкадавалі сваіх ашчаднасьцяў і набылі собскі грамадзкі Дом, і адразу запрасілі а. Аляксандра высьвяціць яго. Вялікая гэта была нашая ўрачыстасьць, тым болей, што пры гэтай нагодзе, 19. 12. 1954 г., завітаў да нас Сп. Прэзыдэнт, інж. М. Абрамчык. Пасьля высьвячаньня Дому а. Аляксандар адслужыў Малебен падзякі Госпаду Богу. У гэтым Доме, акрамя Багаслужбаў, Управа Брацтва й Сястрыцтва БАПЦ праводзіць свае паседжаньні, а таксама адбываюцца сходы ўсіх нашых грамадзкіх арганізацыяў. Так з Богам, праз нашую сьв. Царкву, мы працуем для дабра нашае Бацькаўшчыны.

**БЭЛЬГІЯ.** Прыход і сьв. БАПЦарква зарганізаваная тут увосень 1950 г. з прыездам у Лювэн а. Аўгена **Смаршчка.** Цэнтр Прыходу й Царква знаходзяцца ў Лювэне, дзе жывуць і вучацца нашыя студэнты. Аднак, хоць а. Аўген і прабывае стала ў Лювэне, ён нясе сваю духовую апеку, спажыву для душаў нашых суродзічаў па ўсей Бэльгіі, асабліва ў прамысловых асяродках у Ліежы, Гассэльце, Монсе й інш.

Шмат дапамог а. Аўгену ў выконваньні ягоных сьвятарскіх абавязкаў а. Робэрт ван Ковэлярт, сакратар Дапамаговага Камітэту Беларускіх Студэнтаў, за што яму належыць шчырая беларуская падзяка. Аднак, на асаблівую пахвалу заслугоўвае тут наш слаўны нябожчык, кампазытар і дырыгент, М. Равенскі. Такога дырыгента, такога знаўцы Царкоўнага сьпеву й Службаў Божых, якім быў нябожчык, хіба ня мае ні адна царква. І за ягоную адданасьць і любоў да нашае сьв. БАПЦ яму належыць паклон і слава.

Да прыезду а. Аўгена ў Лювэн нашыя суродзічы ў Бэльгіі належалі да ўкраінскіх, або да расейскіх цэркваў, цяпер жа яны амаль усе належаць да нашае сьв. БАПЦ, і ўсюды зь вялікаю радасьцю спатыкаюць а. Аўгена, а калі ён даўжэйшы час не прыяжджае да іх дзеля сваіх шматлікіх абавязкаў, засыпаюць яго лістамі з просьбамі ізноў адведаць іх, пацешыць іх Божым і беларускім словам, і а. Аўген сьпяшыць да іх. Тут неабходна з падзякаю ўспомніць Архіяпіскапа **Міхаіла** з УАПЦ, які адразу пабацькаўску прыняў а. Аўгена да супольных Службаў Божых і даручыў яму духовую апеку й над украінцамі, якія прабываюць у беларускіх асяродках.

У гэтым часе душпастырская дзейнасьць а. Аўгена пашырылася й на такія асяродкі, як: Цвартбэрг, Цолдэр, Гауталеи, Эсно, Монс-Гаршы й інш. Больш таго, а. Аўген ужо некалькі разоў меў Службы Божыя й у Францыі, дзе тымчасам нашыя суродзічы ня маюць свае Праваслаўнае Царквы. Там таксама а. Аўген служыў разам з украінскімі сьвятарамі й беларускім архімандрытам, а. Уладзімірам. Дзеля браку мейсца мы прымушаныя пакінуць да наступнага нумару далейшую справаздачу аб самаахвярнай працы а. Аўгена, як і а. Аляксандра ў Англіі. Тут толькі яшчэ неабходна падзякаваць Сп. магістру Ул. Цьвірко, які ўдала кіраваў Царкоўным Хорам пасьля сьмерці М. Равенскага, сучаснаму выдатнаму дырыгенту Сп. К. Кісламу, ды ўсім нашым слаўным студэнтам-харыстым, асабліва-ж Сп. Юраму Сенькоўскаму, салісту-барытону й сталаму чытачу Апостала, ды Царк. Старасьце Сп. А. Шацько.

*Нажаль, хроніку з Канады й Аўстраліі пакідаем да наступнага нумару.*

---

**"THE VOICE OF THE CHURCH"**
**Periodical for the Byelorussians of Orthodox Faith**
**Published by the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church**
**Editor: 108 Wyckoff St., Brooklyn 2, N. Y., N. Y., Tel.: ULster 2-7552**